# наша свабода

№25(252) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

4 САКАВІКА 2002 году ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


## Прызнанні Калашнікава

*Намеснік Барадзіна пацвердзіў, што ў Мінску навучаліся вайскоўцы з Іраку.*

Намеснік дзяржсакратара саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі Сяргей Калашнікаў абверг абвінавачанні ў продажы Беларуссю зброі краінам, якія падтрымліваюць сусветны тэрарызм.

«Ніякіх фактаў, якія вызначаюць рэальны продаж зброі або нейкую іншую дапамогу тэрарыстам ці краінам, якія «спрыяюць тэрарыстам і падтрымліваюць іх», на сённяшні дзень няма. Такім чынам, уся тая шуміха, якая паднятая ў Амерыцы, носіць чыста прапагандысцка-палітычны характар», – заявіў ён, выступаючы ў пятніцу ў эфіры «*Эха Москвы*».

Паводле ягоных словаў, «камісія Дзярждэпартаменту на чале з памочнікам намесніка дзяржсакратара, якая пабывала ў Беларусі ў сярэдзіне лютага, высветліла толькі адзін факт – што ў Мінску вучыліся іракскія лётчыкі, якія, дарэчы, не скончылі навучання, а досыць хутка вярнуліся на радзіму. І калі лічыць, што падрыхтоўка такіх досыць шырокіх спецыялістаў, як лётчыкі, для такой вялікай краіны, як Ірак, гэта дапамога тэрарыстам, тады я мог бы сказаць, што і ўсе гуманітарныя акцыі, звязаныя з Іракам, якія праводзіць міжнародная супольнасць, таксама спрыяюць Іраку». «Калі ўвогуле зыходзіць з таго, што 11 верасня здарылася, цяпер у ніводнай краіне, якая ўваходзіць у ААН, у міжнародную супольнасць, нельга навучаць лётчыкаў, гэта поўны абсурд. Давайце скажам пра тое, што Ірак – гэта суверэнная дзяржава, якая мае сваю армію, і гаворка ідзе ў гэтым выпадку пра дзяржаўную дапамогу, нават і тое, што яна і не адбылася. І нельга змешваць тэрарызм і палітыку дзяржавы», – адзначыў намеснік дзяржсакратара.

Каментуючы санкцыі ў дачыненні да Іраку, С.Калашнікаў падкрэсліў, што «Беларусь ніякіх дамоўленасцяў не парушыла». «Няма ніякага пагаднення пра тое, каб, напрыклад, не навучаць тыя ці іншыя кадры. Я яшчэ раз кажу, гаворка ідзе не пра пастаўкі зброі, гаворка ідзе не пра тое, каб пасылаць туды інструктараў па навучанні армейскіх падраздзяленняў – гаворка ідзе пра павышэнне кваліфікацыі іракскіх лётчыкаў. І то гэта сітуацыя, калі гэтая праграма не была рэалізаваная», – сказаў ён.

**УА «ІНТЭРФАКС»**

## Зіму праводзілі



Фота Ул.ШЛАПАКА

3 сакавіка ў двух парках беларускай сталіцы – Горкага і Чалюскінцаў – прайшло традыцыйнае свята «Праводзіны зімы». Ягонымі асноўнымі мерапрыемствамі былі касцюмаванае шэсце і сімвалічнае спальванне пудзіла зімы на спецыяльна абсталяваных пляцоўках. Апрача таго, у парках прайшлі гульнявыя праграмы, выступы эстрадных і фальклорных калектываў – «Нерушы», «Верніцы», «Шатрыцы», «Церніцы», калектыву каледжу мастацтваў, тэатру гульняў і клаунады «Жарт».

**Лавінія АРЭШКА**

## У басейне «Алімпійскага» загінуў чалавек

*Бюро выканкаму Нацыянальнага алімпійскага камітэту Беларусі стварыла камісію для праверкі фінансава-гаспадарчай дзейнасці спартыўна-аздараўленчага комплексу «Алімпійскі», а таксама для праверкі ходу яго будаўніцтва і рэканструкцыі.*

Такое рашэнне прынята 1 сакавіка на паседжанні бюро. Супраць прагаласаваў толькі віцэ-прэзідэнт НАК Генадзь Аляксеенка, які спаслаўся на тое, што раней было ўжо праведзена шэсць праверак з боку Міністэрства па падатках і зборах і Камітэту дзяржкантролю. Паводле яго, ніякіх парушэнняў выяўлена не было.



Галоўнай прычынай стварэння камісіі стаў трагічны выпадак, які адбыўся ў САК «Алімпійскі» яшчэ 16 лютага, але пра яго стала вядома толькі зараз: маладога чалавека, які плаваў у басейне, засмактала трубой вадазбору, якая не была загароджана кратамі. Медыкі не змаглі яго ўратаваць. Да заканчэння следства бюро вырашыла не рабіць высноваў у адносінах да кіраўніцтва САК.

Як заявіў памочнік прэзідэнта па пытаннях фізічнай культуры, спорту і развіцця турызму, віцэ-прэзідэнт НАК Мікалай Ананьеў, частка аб'ектаў САК «Алімпійскі» (куды ўваходзяць Палац воднага спорту, адкрыты басейн і аздараўленчы цэнтр «Алімп», размешчаны ў былым будынку Інстытуту фізкультуры) знаходзіцца ў заняпадзе. Акрамя таго, па словах Ананьева, трэба будзе разабрацца з дамовамі на арэнду памяшканняў цэнтру «Алімп», паколькі з суб'ектаў гаспадарання збіраецца розная арэндная плата.

**Дзмітрый УЛАСАЎ, БелаПАН**





## Чымбулак-Мінск-Кішынёў транзіт

*Пытанні, разгледжаныя на нефармальным саміце дзяржаў СНД у Алматы (28 лютага – 2 сакавіка), будуць вынесены на абмеркаванне ўжо ў якасці канкрэтных праектаў на чарговым паседжанні кіраўнікоў дзяржаваў Садружнасці, якое пройдзе ў траўні ў Кішынёве.*

Пра гэта паведаміў журналістам Аляксандр Лукашэнка 2 сакавіка па прылёце ў Мінск з Казахстану.

Як адзначыў беларускі кіраўнік, прэзідэнты дзяржаваў Садружнасці абмеркавалі на саміце ваенна-палітычныя і эканамічныя пытанні. Паводле словаў беларускага лідэра, размова была «часам непрадузятая, нават вельмі непрадузятая».

«Выйшлі нават на размову аб тым, што, калі мы думаем захаваць СНД, дык давайце яго будзем захоўваць; калі мы не думаем гэтага рабіць, дык не трэба мучыць саміх сябе і адзін аднаго.

*Заканчэнне на стар.3*

## ВЕСТКІ



### Рэканструкцыя плошчы Незалежнасці

1 красавіка ў Мінску распачнецца рэканструкцыя плошчы Незалежнасці. У выніку рух транспарту тут ператворыцца з кальцавога ў лінейны. Будуць пабудаваныя два падземныя падыходы. Першая чарга рэканструкцыі будзе каштаваць 19 мільёнаў рублёў.

### Русіфікацыя «088»

Служба дакладнага часу па тэлефоне 088 з сакавіка перайшла з беларускай мовы на рускую. І яшчэ адна змена: цяпер жаночы магнітафонны голас паведаміць вам час не толькі з гадзінамі і хвілінамі, а яшчэ і з секундамі.

### Месцы для гіпермаркетаў

Ужо каля дзесятка фірмаў выказалі жаданне ўзяць удзел у будаўніцтве гіпермаркетаў у беларускай сталіцы. Стала вядома, дзе іх плануюць размясціць. Гэта, у прыватнасці, Уручча, Малінаўка-9, скрыжаванні праспекту Дзяржынскага і вуліцы Ясеніна, а таксама Партызанскага праспекту і кальцавой дарогі.

### Падаражэла таксі

У Беларусі адбылося чарговае – амаль на 30% – павышэнне тарыфаў на пасажырскія перавозкі таксі. Дакладней, гэта гранічныя кошты на таксі. Цяпер пасадка ў таксі і адзін кіламетр прабегу ўдзень ад 6-ай да 22-ай гадзіны могуць каштаваць максімум 450 рублёў, уначы з 22-ай гадзіны да 6-ай гадзіны – максімум 675 рублёў.

### Даўгабуд Міністэрства аховы здароўя

У Гомелі прайшло паседжанне штабу па будаўніцтве гомельскага спецдыспансера – Цэнтру радыяцыйнай медыцыны. Яго ўзвядзенне цягнецца яшчэ з пачатку 90-х гадоў і ніяк не можа завершыцца. Прычынаю называюць нерытмічнае фінансаванне з боку заказчыка, у якасці якога выступае Міністэрства аховы здароўя. Для завяршэння будаўніцтва комплексу неабходна 25 мільёнаў даляраў.

### Беспарольны інтэрнэт для Міншчыны

Паводле інфармацыі рэспубліканскага аб'яднання «Белтэлекам», з 1 сакавіка паслуга беспарольнага доступу ў інтэрнэт адкрылася для абанентаў Слуцку, а трохі пазней гэта адбудзецца ў Клецку і Салігорску. Падключэнне астатніх райцэнтраў Мінскай вобласці, як мяркуецца, завершыцца ў сакавіку-красавіку. У Беларусі паслуга беспарольнага доступу ў інтэрнэт дзейнічае ўжо тры гады.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА





Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага даляра на «чорным рынку»** 1680

Падпісны індэкс НАШАЙ СВАБОДЫ 63478



ВЕСТКІ



## Збоі ў метро

2 сакавіка з 12.20 да 12.30 быў спынены рух цягнікоў на другой лініі Мінскага метрапалітэну. Прычына здарэння – непаладкі ў электраабсталяванні саставу, які павінен быў адпраўляцца з канцавой станцыі «Магілёўская» ў бок станцыі «Аўтазаводская». Па дрэннай завядзёнцы людзям, што стаялі на станцыях у доўгім чаканні цягніка, пра затрымку ніхто нічога не паведаміў.

## Нацыянальная бібліятэка рыхтуецца да юбілею

Створаны аргкамітэт па падрыхтоўцы і правядзенні мерапрыемстваў з нагоды 80-годдзя з дня заснавання Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Яны пройдуць 16-17 верасня гэтага году. Напрыклад, будзе наладжаны «круглы стол» з удзелам дырэктараў нацыянальных бібліятэк краінаў СНД на тэму «Нацыянальная бібліятэка – сімвал нацыі і дзяржавы». Да свайго юбілею ў Нацыянальнай бібліятэцы маюць выдаць зборнік навуковых артыкулаў «Здабыткі», прысвечаны маладаведомым помнікам нацыянальнага кнігадрукавання, і «Зборнік навуковых матэрыялаў па Другіх кнігазнаўчых чытаннях», якія праводзяцца «Нацыяналкай» раз на 2 гады.

## Украінская кантрабанда кампакт-дыскаў

Буйная партыя кантрабандных кампакт-дыскаў агульным коштам на 5 мільёнаў рублёў з камп'ютэрнымі праграмамі і гульнямі была затрымана днямі на беларуска-украінскай мяжы падчас пагранічнай спецаперацыі «Мяжа-2002». 880 такіх кампакт-дыскаў знайшлі пры ўездзе ў нашую краіну ў пасажырскім цягніку Адэса–Санкт-Пецярбург.

## У Беларусі з'явіцца Рамесная палата

Дзяржаўнае аб'яднанне арганізацыяў побытавага абслугоўвання «Белбыт» хутка будзе ператворана ў Рамесную палату Беларусі. На сёння ў галіне абслугоўвання працуюць пераважна малыя фірмы і індывідуальныя прадпрымальнікі. Тут занята 130 тысяч чалавек.

## Конкурс мадэлек

6 сакавіка ў канцэртнай залі «Мінск» адбудзецца рэспубліканскі конкурс «Лепшая мадэль 2002 году», які арганізоўваюць мадэльнае агенцтва *White stars*, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў і Дзяржаўны ансамбль танца Беларусі. Абмежаванняў для мадэлек, што хочуць узяць удзел у конкурсе, не будзе. Удзел возьмуць і дзяўчаты, ніжэйшыя ростам за 172 сантыметры.

# На падставе поўнага даверу

Архітэктарку Маю Кляшторную зацвердзілі новым навуковым кіраўніком праекту рэканструкцыі Мінскай кальцавой аўтамабільнай дарогі (МКАД) у раёне ўрочышча Курапаты. Такое рашэнне прынялі на паседжанні Беларускай рэспубліканскай вучэбна-метадычнай рады па пытаннях гістарычна-культурнай спадчыны, якое адбылося 28 лютага ў дэпартаменце па ахове гістарычна-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры. На ім прысутнічалі прадстаўнікі Камітэту архітэктуры пры Мінгарвыканкаме.

Як зазначыў супрацоўнік дэпартаменту Мікалай Дайнега, кіраўніцтва РУП «Магістральаўтадар» – заказчыка і адказнага за ход работаў па рэканструкцыі МКАД – прапанавала замяніць навуковага кіраўніка праекту архітэктара Мікалая Емяльянава. «Ён практычна не браў удзелу ні ў распрацоўцы праекту, ні ў назіранні за яго ажыццяўленнем. Усе спрэчныя пытанні, якія ўзнікалі падчас рэканструкцыі дарогі паміж заказчыкам і грамадскасцю, вырашала Мая Кляшторная – дачка рэпрэсаванага беларускага паэта. І калі паўстала пытанне аб неабходнасці зацвердження канчатковага праекту пашырэння МКАД у раёне Курапатаў, Емяльянаў запрасіў за навуковае кіраўніцтва праектам нічым не абгрунтаваную суму (240 тысяч рублёў штомесяц на працягу паўгода)», – паведаміў Дайнега. У гэтай сітуацыі кіраўніцтва «Магістральаўтадару» звярнулася ў дэпартамент з просьбай замяніць навуковага кіраўніка праекту.

Намеснік старшыні дэпартаменту Васіль Чэрнік нагадаў, што тэрыторыя ўрочышча Курапаты мае міжнароднае значэнне і з'яўляецца гістарычна-культурнай каштоўнасцю першай катэгорыі. «Пытанне аб навуковым кіраўніку работаў, што праводзяцца на тэрыторыі такога кшталту аб'екту, павінна разглядацца на паседжанні вучэбна-метадычнай рады», – патлумачыў Чэрнік. Старшыня праўлення Мінскага абласнога таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры, кандыдат гістарычных навук Міхась Чарняўскі прапанаваў зацвердзіць навуковым кіраўніком аб'екту «Курапаты – месца знішчэння ахвяр палітычных рэпрэсій» – спецыяліста па генеральным планаванні і ландшафтнай архітэктуры, старшыню «Мартыралогу Беларусі» Маю Кляшторную. «Яна шмат гадоў займаецца праблемай Курапатаў. Прычым Мая Тодараўна – чалавек бескарыслівы», – заўважыў вучоны. Мая Кляшторная фактычна і займаецца на грамадскіх асновах вырашэннем усіх пытанняў, якімі павінен займацца навуковы кіраўнік.

**БелаПАН**

## 130-годдзе Бялыніцкага-Бірулі

У Бялынічах на Магілёўшчыне 1 сакавіка прайшлі ўрачыстасці з нагоды 130-годдзя з дня нараджэння вядомага беларускага мастака Вітольда Бялыніцкага-Бірулі. Дарэчы, сёлета мясцовыя ўлады заснавалі прэмію імя Бялыніцкага-Бірулі. Першай яе лаўрэаткай стала мастачка і выкладчыца Бялыніцкай школы мастацтваў Ларыса Жураковіч.

## Хакеістаў прэміруюць

Старшыня Федэрацыі Уладзімір Навумаў заявіў, што зборная Беларусі па хакеі не атрымае дзяржаўнай узнагароды за паспяховае выступленне ў Солт-Лэйк-Сіці, бо не заняла прызавога месца. Але і чацвёртае месца будзе адзначана. Праўда, сродкамі спонсараў і Міжнароднай федэрацыі хакею. Якая гэта будзе сума, У.Навумаў не паведаміў.

# Спачуванні літаратарам Беларусі

Арганізацыі пісьменнікаў Літвы, Украіны і Эстоніі выказалі спачуванне літаратарам Беларусі ў сувязі з праблемамі фінансавання Саюзу беларускіх пісьменнікаў (СБП). Пра гэта БелаПАНу паведаміла старшыня СБП Вольга Іпатава.


Фота Ул.ШЛАПАКА

Нагадаем, што па распараджэнні кіраўніка дзяржавы ад 1 ліпеня 1997 году Дом літаратара, пабудаваны на сродкі пісьменнікаў, быў перададзены «ў аператыўнае кіраванне Кіраўніцтва справамі прэзідэнта Рэспублікі Беларусь... з мэтай забеспячэння эфектыўнасці выкарыстання дзяржаўнай уласнасці». У якасці кампенсацыі ўлады абяцалі фінансаваць арганізацыйныя выдаткі творчага аб'яднання, аднак з ліпеня 2001 году дзяржаўнае фінансаванне СБП спынілася. Як маркуе кіраўніцтва Саюзу, гэта выклікана іншадумствам літаратараў, якое не задавальняе ўлады.

Паводле словаў В.Іпатавай, у тэлефоннай размове з ёю дырэктар Літаратурнага фонду Украіны ад імя украінскіх пісьменнікаў выказаў спачуванне з прычыны цяжкага матэрыяльнага становішча творчага аб'яднання. Абурэнне тым, што высокія беларускія чыноўнікі не трымаюць сваіх абяцанняў наконт фінансавання СБП, выказала, паводле словаў Іпатавай, і вядомая расійская паэтэса Рыма Казакова. Яна заявіла аб сваім намеры паінфармаваць пра гэта расійскую грамадскасць. А старшыня Саюзу пісьменнікаў Літвы Валянцінас Свяніцкас выказаў спадзяванне, што прэзентацыя анталогіі беларускай паэзіі, падрыхтоўка да якой зараз завяршаецца ў Літве, адбудзецца ў Мінску «ў тым доме, які заўсёды належаў пісьменнікам, а менавіта – у Доме літаратара».

Вольга Іпатава выказала ўдзячнасць Таварыству беларускай мовы імя Францішка Скарыны, Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» і іншым грамадскім аб'яднанням за падтрымку Саюзу беларускіх пісьменнікаў.

**БелаПАН**

### Каментар НАШАЙ СВАБОДЫ

Рэдакцыя газеты далучаецца да спачуванняў, якія замежныя літаратары выказваюць сваім беларускім калегам у сувязі са стратаю дзяржаўнага фінансавання на ўтрыманне Дому літаратара. Аднак памылкова лічыць падставай такіх непрыгожых дзеянняў улады пісьменніцкае іншадумства. Па-першае, сярод пісьменнікаў ёсць шмат ураданых аднадумцаў, а восьжа і яны пакараныя непашанай да галоўнага пісьменніцкага офісу. Па-другое, пісьменніцкае дысідэнцтва, калі і мела месца ў апошнія гады, дык не мела і не магло мець шырокага розгаласу, бо разгорнуты ў 1995 годзе новы наступ русіфікацыі зменшыў наклады беларускамоўных культурніцкіх газет і часопісаў да перадсмяротнага стану. Пры такіх накладах няма як і дзе распаўсюджваць свае іншыя думкі.

Таму галоўная прычына затармажанага фінансавання палягае, відаць, у іншым. Вышэйшае чынавенства перастала лічыць пісьменнікаў за ідэалагічна моцную сілу; гэтым яно прынцыпова розніцца ад сваіх камуністычных папярэднікаў. Сёння пісьменнікі асэнсоўваюцца як стваральнікі *fiction* – літаратурных вымыслаў, якія, як і на Захадзе, даволі рэдка становяцца бестселерамі. Цяпер ідэалагічная ўвага пераснулася на праваслаўную царкву, бо яна ахоплівае ўплывам больш людзей, чым беларуская літаратура – чытачоў, і да таго ж актыўных місіянераў там куды болей, чым у СБП актыўных літаратараў. Адпаведна перанакіраваліся і фінансавыя ручаіны. Прыкладам, у падарунак новаму храму РПЦ у Маскве беларускі ўрад перадаў харугвы коштам 100 тысяч даляраў, але невядома, ці перададзены Дому літаратара ад ураду дарам хоць бы дзяржаўныя сцяг, каб стварае ўрачыстасць у якім з кабінетаў. Жыццё мяняецца. Як некалі паганскія святары, так сёння і беларускія літаратары мусяць змірыцца з пераменамі і прымаць спачуванні.

Аднак, на жаль, спачуванні на рахунак не пакладзеш. Чаму б тым жа расійскім ды ўкраінскім пісьменнікам, усім аматарам беларускай літаратуры не падтрымаць Саюз пісьменнікаў Беларусі не толькі словамі?

# Рыцары ў Мінску


Фота Ул.ШЛАПАКА

Больш за 400 удзельнікаў сабраў 5 Міжнародны фестываль сярэднявечнай культуры і музыкі «Белы замак», які днямі адбыўся ў мінскім Палацы дзяцей і моладзі. Арганізатарамі фестывалю стаўся рыцарскі клуб «Ордэн паўночнага храма». У гэтым годзе пад скляпенні «Белага Замку» з'ехаліся прадстаўнікі 30 рыцарскіх клубаў з Беларусі, Польшчы, Украіны, Расіі і Балтыі. Праграма трохдзённага фестывалю была надзвычай насычаная разнастайнымі імпрэзамі. На працягу трох дзён доўжыліся рыцарскія турніры, адбыўся канцэрт раманцічнай музыкі, паказ сярэднявечнай моды, конкурс на лепшы строй, тэатральная праграма па матывах сярэднявечных легенд. У нядзелю была наладжаная ваенна-гістарычная рэканструкцыя бітвы на Нямізе.

Цікава, што пераможцамі ваенных спаборніцтваў у гэтым годзе сталі два рыцары з маскоўскага клубу «*Паладин*». У якасці ўзнагароды яны атрымалі двуручны меч, які ім уручыў магістр Ордэну Паўночнага Храма Зміцер Нісцюк. Фестываль ладзіцца штогод і ўжо мае сваю багатую традыцыю. Як адзначаюць арганізатары, колькасць удзельнікаў і гледачоў з кожным годам павялічваецца.

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**

## Абарона беларускіх тавараў

Леташняя актывізацыя працы па змякчэнні антыдэмпінгавых і іншых абарончых захадаў, прымяняемых да беларускіх тавараў, дала станоўчыя вынікі. Пра гэта заявіў намеснік міністра замежных справаў Аляксандр Міхневіч на прэс-канферэнцыі 28 лютага.

Міністэрства замежных справаў Беларусі, паводле яго словаў, робіць папераджальныя захады па недапушчэнні пачатку антыдэмпінгавых разбораў у трэціх краінах у дачыненні да беларускіх тавараў і абараняе айчынных таваравытворцаў ад экспансіі таннай замежнай прадукцыі, якая мае беларускія аналагі.

Як паведаміў Міхневіч, «хваля антыдэмпінгавых захадаў у краінах далёкага і блізкага замежжа ў дачыненні да шэрагу беларускіх экспартных тавараў абцяжарвае нам жыццё». Антыдэмпінгавыя і спецыяльныя захады ў дачыненні да беларускіх тавараў прымяняюцца краінамі Еўрасаюзу, ЗША, Украінай, Літвой, Польшчай, Турцыяй у дачыненні да дзесяці найменняў беларускіх тавараў, уключаючы мінеральныя ўгнаенні, хімічныя валокны, некаторыя будматэрыялы. ЕС, у прыватнасці, прымяняе антыдэмпінгавыя захады ў дачыненні да штапельных валокнаў і жгуту, карбаміду, калійных угнаенняў і карбамідна-аміячнай сумесі. ЗША – у дачыненні да шкло475валакна і шклотканіны, Літва – цэменту і ванны. Украіна ўвяла пратэкцыяніцкія захады ў дачыненні да ўвозу беларускага штучнага футра.

**Ірына САЗАНОВІЧ**



# Беларусь – Папуа Новая Гвінея 1:0

*Так, лік на нашую карысць. Перавага хоць і мінімальная, але гэта перамога! У якім відзе спорту? Па ўзроўні дабрабыту сярод краін, што развіваюцца. Упершыню міжнародны турнір праўшоў у Капенгагене ў 1995 годзе ў рамках Сусветнага саміту па сацыяльных пытаннях.*

Спаборніцтва чымсьці нагадвае сучаснае пяцібор'е, толькі колькасць відаў скарочана да трох. Пераможца вызначаецца па сбалансаванасці развіцця эканомікі, сацыяльнага асяроддзя і інфармацыйнай інфраструктуры. Найвышэйшы бал для кожнай катэгорыі – 800, значыць, максімальна можна набраць 2 400 балаў. Для параўнання: сярэдні індэкс 5 развітых дзяржаваў (Японіі, Нідэрландаў, Сінгапуру, Іспаніі і ЗША) складае 1 908. Пры гэтым на эканоміку прыпадае 651 бал, сацыяльнае асяроддзе ацэнена ў 634, інфармацыйная інфраструктура зарабіла 624.

Для ўдзелу ў турніры 2001 году міжнародная федэрацыя выбрала 70 краін, што развіваюцца. Барацьба, як і чакалася, разгарнулася нежартоўная. Чым вышэйшае месца ў выніковым пратаколе, тым больш шанцаў атрымаць узнагароду – інвестыцыі. Прызавы фонд турніру 2001 году склаў 240 млрд. даляраў і ў 6 разоў перавысіў аб'ём гуманітарнай міжнароднай дапамогі. Словам, было за што змагацца.

Радуе тое, што Беларусь не апынулася ў канцы турнірнай табліцы. Мы занялі пачэснае 52-е месца, на 8 балаў апярэдзіўшы каманду Папуа Новай Гвінеі і цэлы шэраг афрыканскіх краінаў. Наш агульны індэкс – 1 096 балаў, пры гэтым за эканамічнае развіццё суддзі выставілі нам 382 балы (64-е месца), за стан сацыяльнага асяроддзя – 240 балаў (39-е месца), інфармацыйная інфраструктура пацягнула на 474 балы (45-е месца). Нашая афрыканская супернікі хоць і абскакалі нас у эканамічным развіцці (29-е месца), але саступілі нашмат у «сацыялцы» (42-е месца) і цалкам правалілі «інфарматыку» (66-е месца).

7 краінаў у першай дваццатцы – з Усходняй Еўропы. Эстонія і Славенія ўвогуле неяк здолелі патрапіць на 8-е і 9-е месцы. Дзякуючы сацыялістычнай спадчыне, у прыватнасці моцнай палітыцы аховы здароўя і адукацыі, яны атрымалі высокія балы па сацыяльным асяроддзі. Да таго ж у гэтых краінах на раннім этапе незалежнасці шырокае распаўсюджанне атрымалі сучасныя тэхналогіі.

Беларусы чарговым разам здзівілі ўсіх: ні высокі ўзровень адукацыі, ні сталы рост колькасці камп'ютэраў і мабільных тэлефонаў ніяк не можа адбіцца на эканамічным развіцці краіны. Нехта шукае адказу ў загадкавай талерантнай беларускай душы, нехта тлумачыць наўдачу выбранай эканамічнай мадэлі «рынкавым сацыялізмам». Адназначнага адказу няма, але з 1 студзеня 2002 году стартаваў новы турнір. Арганізатары вераць у тое, што прызавы інвестыцыйны фонд не зменшыцца. І так хочацца верыць – перамога Беларусі над камандай з далёкай краіны не апошняя.

**Сяргей НІКАЛЮК**




# Кіёскавая зачыстка

*Пакупнікі і гандляры сталіцы працягваюць абмяркоўваць рашэнне № 17 Мінгарвыканкаму, якое зацвердзіла Канцэпцыю ўпарадкавання і арганізацыі сучасных формаў дробнарознічнага гандлю ў Мінску. Паводле яе, з гарадскіх вуліц да 1 траўня павінны знікнуць аб'екты дробнарознічнага гандлю, а да 1 чэрвеня 2002 году – і гандлёвыя кропкі на прыпынках.*

Як сказаў на прэс-канферэнцыі ў Мінгарвыканкаме аўтар гэтага праекту галоўны архітэктар гораду Аляксандр Чадовіч, канцэпцыя не ліквідуе дробнага гандлю ў Мінску, а пераводзіць яго на якасна новы ўзровень. Прычын для гэтага гарадскія ўлады бачаць шмат: кіёскі ўжо не адпавядаюць эстэтычнаму выгляду сучаснага гораду, у іх адсутнічаюць належныя санітарна-тэхнічныя ўмовы для работнікаў і спажыўцоў, часта парушаюцца ўмовы дастаўкі, захоўвання і рэалізацыі тавараў, а таксама няма гарантыяў іхняй якасці.

Але, па словах старшыні Мінскай гарадской арганізацыі спажыўцоў Васіля Парынава, ніякіх скаргаў на абслугоўванне ў кіёсках ці на якасць тавараў, набытых у іх, у арганізацыю ад жыхароў сталіцы не паступала.

Такім парадкам каля 3,5 тысяч прыватных шапікаў, пакуль яшчэ раскіданых па ўсім горадзе, пачалі пакрысе знікаць з мінскіх вуліц. Замест іх будуць ствараюцца спецыяльна абсталяваныя гандлёвыя месцы, якія, па словах А.Чадовіча, будуць адпавядаць інтарэсам як спажыўцоў, так і гандляроў. Гэта могуць быць новыя невялічкія крамы на першых паверхах дамоў на вуліцах з інтэнсіўным патокам транспарту і пешаходаў, у падземных пераходах ці каля выхадаў з метро. Магчыма, што будуць будавацца як мінікрамы з разборных канструкцыяў плошчай да 500 квадратных метраў, так і гіпермаркеты гандлёвай плошчай за 10 тысяч квадратных метраў, у якіх тавары будуць рэалізоўвацца па нізкіх коштах. Не менш будзе вітацца будаўніцтва ў горадзе буйных гандлёвых цэнтраў за кошт аб'яднання капіталаў індывідуальных прадпрымальнікаў. Аляксандр Чадовіч запэўніў, што на кішэнях спажыўцоў гэтае ўпарадкаванне гандлю ніякім чынам не адаб'ецца, бо кошты на тавары ва ўсіх новых гандлёвых кропках захаваюцца такімі ж нізкімі, якімі яны былі ў кіёсках. Рэформа не абміне кніжных латкоў і латкоў з агароднінаю і садавінаю. Згодна з новай канцэпцыяй, усе кнігі з вуліц цяпер перакачуюць у невялічкія кніжныя крамы, якія адкрываюцца ў кожным раёне гораду, а гандляваць гароднінай і садавінай ужо можна будзе толькі пад дахам.

Варта чакаць, што першы дзень лета для звычайных мінчукоў, што прачнуцца зранку і не знойдуць ніводнага са звыклых шапікаў, дзе купляць па дарозе на працу пачак цыгарэтаў ці нейкую патрэбную драбязу ўжо ўвайшло ў звычку, стане вельмі нервовым. А прадпрымальнікі непакояцца ўжо зараз, бо гэтую канцэпцыю яны схільны расцэньваць як чарговую пагрозу іхняму бізнесу.

На думку старшыні Беларускага саюзу прадпрымальнікаў Аляксандра Патупы, рашэнне гарадскіх уладаў «накіравана на адміністрацыйную расчыстку поля для буйных крамаў, дзе многія характэрна «кіёсачныя» тавары (шакалад, піва...) каштуюць значна даражэй». Перамяшчэнне кіёскаў у менш людныя месцы робіць бізнес гандляроў нерэнтабельным і вядзе проста да ягонай ліквідацыі. Разам з тым гэта можна расцэньваць як звычайнае «выцісканне з малога бізнесу дадатковых непадатковых сродкаў», бо ўсе азначаныя мерапрыемствы па наданні гораду сучаснага выгляду прадпрымальнікі мусяць праводзіць за свае грошы і прымусова.

Як заявіў на прэс-канферэнцыі Аляксандр Чадовіч, ніводны гандляр не пазбавіцца свайго месца, калі прыме новыя правілы гульні. Аднак, на думку прадпрымальнікаў, пазбаўляючы іх ліцэнзіі на гандаль з гэтай нагоды, Мінгарвыканкам сам рызыкуе парушыць заканадаўства, бо такой падставы для ліквідацыі ліцэнзіі ў ім проста няма. Кожны з прадпрымальнікаў атрымаў ліцэнзію на дробны гандаль на 5 год, і ў ёй указана дакладнае месца размяшчэння кіёску.

**Алена ЛАБАНАВА**

# Хвароба і рэцэпт

*Нашу эканоміку здаровай не называе сам аўтар «эканамічнага дзіва». І дыягназу не паведамляе. Так, жартуе наконт віскулёўскіх падпісантаў, апазіцыі ды карупцыянераў.*

Праблемы меншымі не робяцца. Уплывовыя людзі нервуюцца і патрабуюць рашэнняў. Маўляў, назваўся доктарам – пішы рэцэпт.

Уплываць на надвор'е і кошт расійскай нафты, ад якіх усё астатняе тут залежыць, седзячы ў Мінску, бадай што немагчыма. Маштаб не супадае. Адна Расія за месяц перапрацоўвае нафты, колькі мы за год...

Даводзіцца займацца наступствамі працэсаў альбо іх імітацыяй. Так руплівы гаспадар палівае гурочкі без усялякіх прэтэнзіяў на ролю Пана Бога.

Вось чаму так ціхенька ідзе па жыцці тэкст і змест сёлетняга дэкрэту №1 ад 4 лютага. А што за ён? Чаму з'явіўся пад вясну?

Натуральна, мэта аўтара дэкрэту – парадак, як у сярэдняга беларуса. Прыбавіцца павінна парадку ў налічэнні і аплаце падатку на дададзеную вартасць (ПДВ) пры экспарце нафтапрадуктаў. Прыбудзе праз тое, што калі прададуць іх за мяжу, то падатковыя адлічэнні па стаўцы памерам нуль адсоткаў зменшацца на велічыню ў 6,5% ад утаргоўкі, і ўлічвацца тое будзе ў складзе выдаткаў па-за рэалізацыяй.

Але, калі з тымі нафтапрадуктамі купец нічога тут не рабіў і яны не набылі статусу прадукцыі мясцовага паходжання, гешэфту не будзе.

Ліберальнаму ўраду загадана зрабіць захады па выкананні дэкрэту на працягу трох месяцаў. Каб лібералы не замарудзілі працэсу занадта, дэкрэт набыў сілу з першага сакавіка. А заадно быў падтрыманы надзейным Нацыянальным сходам.

Між тым летась афіцыёзы святкавалі заканчэнне «бензінавай вайны» і перамогу братэрскай любові А.Р.Лукашэнкі і У.У.Пуціна. На мяжы Беларусі былі ўведзеныя мытныя пошліны, як у Расіі. Бюджэт Расіі атрымаў да 100 млн. даляраў дадаткова.

Каторыя прадавалі нафту ў Мазыр і Наваполацк, засумавалі. А іх ёсць тры гатункі. Беларускія рэзідэнты: кантралююць 60% з 12 мільёнаў тонаў паставак, 2/3 з каторых экспартуецца; расійскія – 10, і іншыя – 30%. Толькі не думайце, што іншыя – іншыя, проста яны зарэгістраваныя не тут і не там.

Было ім чаго сумаваць. З тоны нафты, што перагналі ў Беларусі, выгарала 6-7 даляраў прыбытку. ПДВ плацілі ў Расіі і не плацілі за экспарт на мытні тут. Каб сталі плаціць, то рускія мытнікі ім ПДВ не сталі б вяртаць, бо нашыя мытныя дэкларацыі не прызнаюць чамусьці.

На халеру нам такі экспарт, сказалі тыя дзядзечкі, і сумна зрабілася ўжо тутэйшым лібералам. Проста змора ставала перад вачыма: перапрацоўка падае да мяжы мясцовых патрэбаў – у 6 мільёнаў тонаў, касальныя жалязякі нафтаперапрацоўчых заводаў трацяць эканамічны і тэхналагічны сэнс, а самі лібералы робяцца непатрэбнымі добраму народу і пастаўшчыкам нафты.

Нарэшце дамовіліся на кампенсацыю ПДВ, заплачанага пры набыцці нафты за кошт беларускіх мытных пошлінаў, і сталі плаціць розніцу паміж пошлінай і ПДВ. Паабяцалі яшчэ выдумаць ільготы.

Была вясна, і калгасы атрымалі сваю салярку, а вось пастаўшчыкі нафты пачалі зарабляць на тоне перапрацаванай у нас нафты толькі 2-3 даляры, і то з рознымі хітрыкамі.

Неўзабаве ўрад гэтак званай Саюзнай дзяржавы павінен каторы раз абмеркаваць прынцыпы цэнаўтварэння на энерганосьбіты, цэны натуральных манаполіяў і ўскосныя падаткі.

Што, і дэкрэт ёсць і зноў нешта не так?

Па тлумачэнні ваш карэспандэнт звярнуўся да намесніка дырэктара Цэнтру па праблемах еўрапейскай інтэграцыі ЕГУ (Еўрапейскага гуманітарнага універсітэту, недзяржаўнай вышэйшай навучальнай ўстановы) **Аляксандра Мікалаевіча Зайцава**, спецыяліста ў галіне інтэграцыйных працэсаў.

**Ю.Л.** Які чынам апісаны намі дэкрэт звязаны з беларуска-расійскімі перамовамі, дамовамі і іншай інтэграцыяй?

**А.З.** Паколькі Беларусь выключна залежыць ад паставак энерганосьбітаў з Усходу, то доступ да расійскай нафты і натуральнага газу – бадай што самая істотная і надзённая задача нашай дзяржавы.

Калі згадаць недалёкае мінулае, відаць – большасць сур'ёзных міждзяржаўных кантактаў паміж Беларуссю і Расіяй мелі на парадку дня пытанні функцыянавання ПЭК (паліўна-энергетычнага комплексу). Альбо гэта было дараванне нашых паліўных пазыкаў (заўважце, практычна заўсёды на нашую карысць), альбо пытанні дзейнасці расійскіх НК (нафтавых кампаніяў) на нашым рынку, альбо ход рэалізацыі праектаў па транзіце з Расіі праз Беларусь паліўна-сыравінных рэсурсаў у Еўропу.

У гэтым сэнсе, у апісанні вашай газеты, дэкрэт – частка той штодзённай працы, якую нашай маленькай, але рашучай дзяржаве даводзіцца рабіць, каб, так бы мовіць, нейтралізаваць «кремлевские наезды». Бывала і горай...

Наколькі можна зразумець падаплёку гэтага дэкрэту, перапрацоўка нафты на беларускіх НПЗ (нафтаперапрацоўчых заводах) была ў межах саюзнай дзяржавы даволі прыбытковай. Пры тым у Беларусі аперавала толькі пэўная колькасць расійскіх НК плюс сумесная «Славнефть». Напэўна, знайшлося шмат ахвотнікаў пралабіраваць у Крамлі рашэнні, якія звузяць гэтую рынкавую нішу. Іншымі словамі, сённяшняя Расія – мазаічная, некансалідаваная і абцяжараная мноствам унутраных «разборок».

Згаданая вамі «бензінавая вайна» – гэта з той самай оперы: спроба перацягнуць у іншыя рукі прыбыткі, якія атрымлівала беларуская дзяржава і лаяльныя ёй расійскія НК.

Уласна кажучы, згаданы дэкрэт – гэта механізм вяртання статус-кво. Калі мы пазбавіліся праз чужыя дзеянні нашых прыбыткаў, іх трэба вярнуць. Гэты механізм, па сутнасці, – той падатковы бонус, які беларуская дзяржава дае перапрацоўшчыкам нафты. А наўпростае скарачэнне падатковых паступленняў абавязкова будзе «адбівацца» на іншых каналах. Галоўнае – нікому не аддаваць гэтай канкрэтнай нашай рынкавай нішы.

**Ю.Л.** Чаму для Расіі, з такімі каласальнымі аб'ёмамі перапрацоўкі, важныя беларускія заводы?

**А.З.** Наагул, некарэктна параўноўваць аб'ёмы перапрацоўкі на расійскіх НПЗ з аб'ёмамі перапрацоўкі на беларускіх.

Нельга забывацца, што абодва беларускія НПЗ з усіх не перапрацоўваць аб'ёмы нафты, якія шматкроць перавышаюць патрэбы нашай краіны. Іншымі словамі, нашыя НПЗ ад пачатку арыентаваныя на экспарт. Больш за тое – яны геаграфічна блізкія да асноўных спажыўцоў расійскай нафты і нафтапрадуктаў. Акрамя таго, якімі б словамі ні называлася наша інтэграцыя з Расіяй, гэта давала рэальныя магчымасці не толькі льготнага доступу беларускіх вытворцаў на расійскі рынак, але перадусім ільготнага доступу да расійскай сыравіны, а гэта для ўсякага НПЗ добра.

Сукупнасць згаданых фактараў рабіла доступ НК да нашых НПЗ камерцыйна больш выгадным, чымсьці да іншых на постсавецкай прасторы. Гэта, між іншым, фактычна і ёсць спрыяльны інвестыцыйны клімат у канкрэтна ўзятай галіне.

**Ю.Л.** У такім выпадку што лепей экспарцёрам: карыстацца заводамі як яны ёсць альбо ўкласці ў іх грошы?

**А.З.** Норма прыбытку пры продажы нафтапрадуктаў традыцыйна вышэйшая за норму прыбытку пры продажы сырой нафты (тым болей, што расійская нафтавая сумесь *Urals* ніжэйшая паводле якасці за блізкаўсходнія гатункі, а гэта азначае, што яна і таннейшая на некалькі, а часам і на дзесятак даляраў за тону – у залежнасці ад кан'юнктуры). Таму экспарцёры зацікаўленыя ў продажы ў Еўропу найперш гатовых нафтапрадуктаў, якія адпавядаюць еўрапейскім патрабаванням, а ўжо потым сырой нафты.

Адсюль гэткая пільная ўвага любой сур'ёзнай НК да беларускіх НПЗ. Тыя НК, што функцыянуюць паспяхова, з гэтай прычыны заўсёды імкнуцца прыстасаваць НПЗ, якія яны выкарыстоўваюць, пад сусветныя стандарты, а потым ужо інвеставаць у іншыя напрамкі.

На беларускіх НПЗ пэўная мадэрнізацыя праводзілася, але пры ўсіх мінусах, якія ў любой справе можна заўсёды адшукаць, яны ў тэхнічным сэнсе больш сучасныя, чым шмат якія расійскія і ўкраінскія. Таму праблема мадэрнізацыі актуальная, але, пакуль што, не катастрафічная.

**Ю.Л.** Нарэшце, хто каго вядзе да парадку – урад нафтавікоў ці нафтавікі ўрад?

**А.З.** Гэта з якога боку глядзець. Калі ў Расіі тры чвэрці паступленняў у бюджэт фармуюцца коштам экспарту рознай сыравіны на Захад, прычым, як правіла, істотную частку складае паліўная група, то па логіцы вашага пытання можна сказаць, што «расійскія нафтавікі вядуць да свайго парадку расійскі ўрад». У нас, на шчасце, усё інакш, і палітыка нашай дзяржавы вызначаецца ўсё ж нашай дзяржавай.

**А.З.** Дарэчы, да вашых слоў пра немагчымасць для Беларусі ўплываць на кошты расійскай нафты...

Па-першае, Расія сама на кошт сваёй нафты не ўплывае, паколькі Расія ўжо не тая, што раней, а кошт на яе нафту ўсталёўваецца не ў Расіі, а, як прынята казаць, – на сусветным рынку.

Па-другое, расійскі бюджэт фармуецца, зыходзячы з нейкай песімістычнай ацэнкі сусветных коштаў на барэль нафты. Калі кошт той падае ніжэй за гэтую адзнаку (мы гэта бачылі ў 1998 г.), то Расія апынаецца ў вострым крызісе. Калі кошт высокі, то Расія адносна спакойная.

Апошнімі гадамі кошты былі спрыяльныя для Расіі, і гэта сталася адзінай прычынай яе «*экономического роста*», «*выполнения планов по поступлениям в бюджет*» і «*низкой инфляции*». Але гэтыя поспехі адбыліся па незалежных ад Расіі прычынах.

Вось і вам, шаноўныя чытачы, прычына падумаць пра перспектывы адносінаў двух вялікіх еўрапейскіх дзяржаваў, што інтэгруюцца не так, як усе.

**Юзік ЛАБЭЦКІ**

# У зброі сіла

## Парахавая бочка на абшары, дзе пануе хаос?

*У крамцы пры трасе цераз Каракорум і на вуліцах Равалпіндзі квітнее капіталізм. У Пакістане відаць уплывы Усходу і Захаду.*




Яго называлі парахавой бочкай, дзяржаваю ў заняпадзе, «катом, які аджыў ужо некалькі сваіх жыццяў», як выславіўся адзін з амерыканскіх знаўцаў Пакістану.

Гаспадарка слабее, асвета ляжыць у руінах. У 1999 годзе чацвёрты раз – з таго часу, як 54 гады таму Пакістан з'явіўся на мапе свету – армія скінула абраны ўрад і захапіла ўладу. Афганскія войны завалілі Пакістан зброяй, шырачы «культуру калашнікава», у якой спрэчкі вырашаюцца з дапамогаю сучаснае зброі. Перастрэлкі паміж чальцамі палітычных партыяў або паміж цывільнымі асобамі і паліцыяй ці войскам – звычайная прaява ў партовым горадзе Карачы, які разросся да 12 мільёнаў жыхароў.

Пакістан узнік пры падзеле Брытанскай Індыі ў 1947 годзе як мусульманская дзяржава. Яго назва – абрэвіятура ад назваў некаторых рэгіёнаў дзяржавы: Пенджабу, Афганіі (Паўночна-Заходняй пагранічнай правінцыі), Кашміру і Індусу-Сіндхі. На урду, афіцыйнай мове краіны, «пак» значыць – чысты. Вось жа, Пакістан – гэта «краіна чысціні».

Правінцыя Пенджаб, дзе жыве 59% насельніцтва, да такой ступені запанавала ў палітыцы, што белуджы і пуштуны, жыхары Паўночна-Заходняй пагранічнай правінцыі, наракаюць на «пенджабізацыю» краіны і жадаюць аўтаноміі. З пуштунамі асабліва цяжка, бо іх айчыну дзеліць штучная мяжа, праведзеная брытанцамі ў 1893 годзе. У Пакістане пуштунаў жыве каля 11 мільёнаў, а ў Афганістане, дзе яны галоўная этнічная група, прыблізна гэтулькі ж. З цягам часу пуштуны па абодва бакі мяжы пачалі ўздымаць пытанне г. зв. Пуштунiстану, дамагаючыся злучэння абедзвюх частак народу або плебісцыту, які дазволіў бы вызначыць, у якой дзяржаве яны хочуць жыць. Калі Афганістан нагадаў пра гэта ў 60-я гг. XX ст., пакістанскія ўлады пераканаліся, што іх краіна аточана ворагамі: з усходу – Індыя, з якой Пакістан ваяваў за Кашмір, а з захаду – Афганістан.

Незалежна ад таго, які ўрад урэшце ўсталюецца ў Кабуле, Пакістан спрабуе запанаваць над ім – бо мае на тое адпаведныя сродкі. Яго армія налічвае 620 тыс. чалавек, яна найвялікшая ў «-станах». І ён мае бомбу – гэта давялі ядзерныя выпрабаванні, праведзеныя ў 1998 годзе ў адказ на аналагічныя індыйскія.

Абарона паглынае 30% бюджэту. На асвету ідзе адна дзесятая таго, хоць амаль палове з 145 мільёнаў грамадзян краіны не споўнілася 15 гадоў. Сярод дзяўчат на вёсцы мала хто атрымлівае адукацыю. Усё часцей сем'і высылаюць сыноў у якое-небудзь з тысяч медрэсэ – рэлігійных школ, у якіх хлопцы знаёмяцца з ультракансерватыўным варыянтам ісламу і мала з чым яшчэ. Акрамя таго, шмат у якіх медрэсэ вучням прышчэпліваюць нянавісць да ЗША, ставячы атаку на талібаў і на Усаму бін Ладэна ў шэраг іншых амерыканскіх злачынстваў.

Злучаныя Штаты некалі былі найбліжэйшым саюзнікам Пакістану, аднак стасункі паміж абедзвюма краінамі могуць зрабіцца праблематычнымі.

| | |
|---|---|
| **Насельніцтва**<br>144,6 млн. | **Нацыянальныя групы**<br>пенджабцы, сіндхі, пуштуны, белуджы, мухаджыры |
| **Плошча**<br>796 100 кв. км | **Рэлігіі**<br>іслам суніцкі 77%<br>іслам шыіцкі 20%<br>іншыя 3% |
| **Сталіца**<br>Ісламабад | |
| **Мовы**<br>пенджабская 58%<br>сіндхі 12%<br>пушту 8%<br>урду 8%<br>іншыя 14% | **Сярэдняя працягласць жыцця**<br>61,5 г.<br><br>**Дзіцячая смяротнасць**<br>81 на 1000 народзін |

**National Geographic**

# Святая Русь не хоча слухаць Папу

Папа Рымскі Ян Павел II узяў удзел у тэлемосце паміж Ватыканам і шэрагам еўрапейскіх гарадоў. Пантыфік прачытаў у жывым тэлеэфіры малітву для жыхароў Будапешту, Вены, Страсбургу, Валенсіі і Масквы. У расійскай сталіцы тэлемалітва транслявалася на экранах, усталяваных у касцёле Беззаганнага Пачацця. У віртуальнай багаслужбе, якая прадоўжылася каля гадзіны, узялі ўдзел каля 3 тысяч маскоўскіх каталікоў. Маскоўскі патрыярх Алексій II рэзка асудзіў падзею, назваўшы гэта чарговым «уварваннем на Русь» і спробаю гвалтоўнага насаджэння каталіцтва ў Расіі.

Перад тым, як паведамляў «Інтэрфакс», усе расійскія тэлеканалы дружна адмовіліся трансляваць зварот Папы Рымскага Яна Паўла II да каталікоў Расіі. Аднак прадстаўнік Ватыкану ў Маскве Томаш Грыса заявіў, што Ватыкан не звяртаўся з просьбамі аб трансляцыі да ніводнае з тэлекампаніяў Расіі.

За два дні да тэлемаста група дзеячаў расійскай культуры і навукі выступіла з заяваю супраць заснавання каталіцкіх дыяцэзіяў у Расіі. Паводле інфармацыі «*Эха Масквы*», сярод аўтараў заявы – Людміла Зыкіна, Таццяна Дароніна, Васіль Ланавой, Ілля Глазуноў, Юрый Саломін, Міхаіл Ульянаў і іншыя. Як гаворыцца ў заяве, «расійскі народ не дзікае племя, і сама прысутнасць на святой Русі каталіцкіх місіянераў – абраза для нашай старадаўняй хрысціянскай культуры». А яшчэ раней, 22 лютага каля будынку прадстаўніцтва Святога Пасаду ў расійскай сталіцы прайшоў мітынг праціўнікаў заснавання ў Расіі мітраполіі і чатырох каталіцкіх дыяцэзіяў. Мітынг быў арганізаваны з ініцыятывы Народнай партыі Расіі, Саюзу праваслаўных грамадзян і шэрагу іншых праваслаўных арганізацыяў. У ім узялі ўдзел каля 1 500 чалавек. Дэманстранты трымалі плакаты:




«Рукі прэч ад Расіі!» і «Не – каталіцкай ерасі!». Неяк гэта не вяжацца з настроямі звычайных людзей, якія жадаюць жыць у згодзе незалежна ад рэлігійных поглядаў.

# Бабуіны ў гульні «Паспрабуй выжыві»

Кожны месяц у вітрынах прадуктовых крамаў невялікага паўднёваафрыканскага курортнага гарадка Рой-Элс з'яўляюцца афішы з лічбамі. Так, апошнім разам на іх стаяла 170:40. Расшыфраваць гэтыя лічбы могуць толькі жыхары Рой-Элсу, якія гуляюць у незвычайную гульню пад назвай «Паспрабуй выжыві». У ёй удзельнічаюць дзве каманды – грамадзяне Рой-Элсу і бабуіны.

У другой палове мінулага году чароды бабуінаў панадзіліся красці прадукты з крамаў і дамоў. Людзі палічылі, што справіцца з гэтай навалай будзе проста. Дастаткова, напрыклад, паставіць ля ўваходу ў вялікую краму дужага дзецюка з палкай у руках. Спачатку сістэма спрацоўвала, але потым забуксавала, бо малпы выявілі нахабства, смеласць, напор і кемлівасць. Змаганне з бабуінамі – выкрадальнікамі ежы – вялося на грамадскія грошы, і гараджане пачалі патрабаваць справаздачы пра вынікі.

Вось тады і нарадзілася сістэма падліку «балаў». Калі дзёрзкія малпы праводзяць паспяховую аперацыю і сыходзяць цэлыя і здаровыя са здабычай, ім запісваюць 10 балаў. Калі людзі сарвалі гэтую спробу крадзяжу, то ім налічваюць 10 балаў. Асабліва ўдалыя былі рэйды малпаў у снежні, калі крамы былі багатыя на калядныя прысмакі. Як мяркуюць, лік у гульні «Паспрабуй выжыві» быў не меншы як 300:0 на карысць чатырохногай каманды. Каб не было сорамна за такую кепскую гульню, гаспадары крамаў вырашылі не выстаўляць на агляд вынікі. У студзені лік аказаўся знoў на карысць бабуінаў – 170:40. Побач з ім выстаўлена мапа гораду з указаннем месцаў крадзяжу.

Цікава рэзюмаваў гэтую сітуацыю з бабуінамі ў Рой-Элсе агент па нерухомасці Джо Хансе. Гульня «Паспрабуй выжыві» рэзка змяніла адносіны да гэтых малпаў з боку мясцовых жыхароў. Мінулым годам яны былі гатовыя забіць іх за свавольства, а цяпер глядзяць на іх новымі вачыма і нават з захапленнем.

**Барыс ПІЛЬНІКАЎ**



# Скандал у польскім Касцёле

*Некалькі дзён таму ў Польшчы выбухнуў скандал, героем якога стала адна з найвышэйшых асобаў польскага Касцёлу. Пра сексуальныя дамаганні мітрапаліта пазнанскага, арцыбіскупа Юліўша Пэца да падначаленых яму ксяндзоў і семінарыстаў Пазнанскай духоўнай семінарыі напісала адна з найбуйнейшых польскіх газет Rzeczpospolita. Аднак яшчэ да асвятлення такога ганебнага факту ў друку пра яго ведалі ў пазнанскай дыяцэзіі.*

Арцыбіскупам пазнанскім Юліўш Пэц стаў у 1996 годзе, да таго ён займаў пасаду біскупа Ломжы, а яшчэ раней служыў у Ватыкане. Першапачаткова ў Познані ён карыстаўся вялізарнай павагай у мясцовага духавенства і вернікаў, і многія старэйшыя ксяндзы і парафіяне, нават пасля таго, як гомасексуальныя прыгоды арцыбіскупа выйшлі на яву, не хочуць верыць гэтаму, вінавацячы ўва ўсім прэсу. Але, як стала вядома журналістам, шэраг святароў і свецкіх дзеячаў з асяроддзя каталіцкай інтэлігенцыі, а таксама каталіцкіх часопісаў «Новая дзяржава», «Знак», «Сувязі» і каталіцкага «Радыё Плюс» не раз звярталіся да арцыбіскупа з прапановаю прыпыніць выкананне біскупскіх абавязкаў да поўнага высвятлення сур'ёзных абвінавачанняў, што выстаўляліся супроць яго. Былі звароты і ў Ватыкан, які ўвосень мінулага году прыслаў у Познань адмысловую камісію для расследавання гэтае справы.

Арцыбіскуп, аднак, заставаўся глухі да зваротаў, караючы аўтараў лістоў, якія знаходзіліся ў яго падпарадкаванні, пазбаўленнем пасадаў. Ён таксама распачаў «контратаку» на сваіх «незычліўцаў», прымусіўшы дэканаў пазнанскай дыяцэзіі падпісаць заяву пра нязгоду з атакамі на яго, якая нібыта мусіла быць абвешчана з амбонаў ува ўсіх касцёлах. Насамрэч заява была адаслана ў Ватыкан як доказ невінаватасці арцыбіскупа, што абурыла шмат каго з тых, хто падпісваўся пад ёй, і чацвёра дэканаў адмовіліся ў знак пратэсту ад выканання сваіх абавязкаў.

Гэтыя ўчынкі арцыбіскупа не маглі заглушыць чутак, што разыходзіліся ўсё шырэй. Рэктар духоўнай семінарыі, якая месціцца за 200 метраў ад палаца арцыбіскупа Познані (і звязана з палацам падземным ходам), стоячы ў касцельнай іерархіі нашмат ніжэй за мітрапаліта, тым не менш забараніў яму з'яўляцца ў семінарыю без папярэджання. Каля траціны семінарыстаў пакідалі семінарыю да заканчэння навукі і прыняцця сану, хоць цяжка сказаць, які працэнт з іх сыходзіў з прычыны няправедных паводзінаў арцыбіскупа, шчодрага на пацалункі і абдымкі. Вядома, што камісія з Ватыкану заслухала па справе аб сексуальных дамаганнях з боку арцыбіскупа некалькі дзесяткаў сведкаў.

Аднак рашэння Ватыкану адносна арцыбіскупа Познані ўсё яшчэ няма. Не каментуе гэтага становішча і нунцый Папы Рымскага ў Польшчы. Сам арцыбіскуп, спасылаючыся на хваробу, пасля газетнага артыкулу не паказваецца публічна і не рэагуе на просьбы прэсы пракаментаваць абвінавачанні. Грамадская думка падзялілася на два лагеры. Частка лічыць, што арцыбіскуп павінен сысці або быць зняты з пасады, што паправіць становішча ў касцёле. Бальшыня з іх, тым не менш, асуджае не самога арцыбіскупа з яго гомасексуальнымі схільнасцямі, а ягоныя ўчынкі – асаблівa ў дачыненні да маладых, поўных веры семінарыстаў. Частка або адмаўляецца верыць у аповеды сведкаў, якія не хацелі паведамляць сваіх імёнаў, або лічыць, што лепш было б не выносіць смецця з хаты.

У звязку з гэтым скандалам у Польшчы зноў разгарэлася спрэчка аб мэтазгоднасці цэлібату ксяндзоў, што спрыяе частым сексуальным вычварэнням. Паводле звестак амерыканскага таварыства сацыялогіі рэлігіі, гомасексуалізм сустракаецца сярод духоўных у 4 разы часцей (6%), чым сярод астатняй часткі грамадства (1,5–2%).

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ,**
**Варшава**

# Разжыліся на Эйфелевай вежы

Звесткі, атрыманыя французскай паліцыяй, выкрываюць махлярскія аперацыі, якія здзейсніў персанал Эйфелевай вежы на грандыёзную суму – больш за 3,3 млн. еўра.

Праведзенае ўнутранае расследаванне паказала, што штат экспазіцыйнага комплексу прысабечваў частку грошай, якія наведнікі аддавалі як плату за ўваход. Следства пачалося пасля таго, як паліцыя атрымала аператыўную інфармацыю. Паводле папярэдніх падлікаў, махляры прадалі дзесяткі тысяч няўлічаных білетаў.

Афера саспела пасля таго, як у 1993 годзе ў кабінках ля падножжа вежы было ўсталявана камп'ютэрнае абсталяванне, паведамляе *The Times*. Мяркуецца, што злачынцы скарысталі нагоду пасля чарговай паломкі камп'ютэраў. Абсталяванне было адрамантавана і запушчана, але адсочванне платы за ўваход пачалося занава. Пры гэтым засталося багата незарэгістраваных білетаў. Махляры скарысталі іх і зразумелі, што натрапілі на залатую жылу.

Згодна з падлікамі, у набыцці капіталу хітрамудрым службоўцам дапамаглі каля шасці мільёнаў наведнікаў, кожны з якіх плаціў прыблізна па 40 франкаў. Трэба нагадаць, што дагэтуль западозраным у махлярстве паслалі 15 фармальных папярэджанняў, але яны кожны раз сцвярджалі, што ім нічога не вядома пра аферу.

**Аддзел інфармацыі**

# «Лішні» Мінск

## Вандальскія мары эстэтаў

*У кожным горадзе свету ёсць пабудовы, якія глядзяцца недарэчна і псуюць краявіды. У Мінску, разбураным амаль дашчэнту войнамі ды вандаламі, такіх будынкаў – бетонна-шкляных пачварын – у XX стагоддзі савецкія гора-архітэктары панабудавалі прoцьму. Тыповых і на рэдкасць выродлівых.*

Шмат хто скажа: а што зробіш, калі гэта ўсё ўжо стаіць – не зносіць жа? А чаму б і не? У Берліне, напрыклад, зараз абмяркоўваюцца некалькі праектаў зносу або перабудовы гэдээраўскай сацыялістычнай архітэктурнай спадчыны. У суседняй з намі Польшчы таксама багата ахвотнікаў пазбавіцца дурных і непрывабных будынін, але палякі не такія заможныя, як немцы, таму проста завешваюць іх рэкламнымі стэндамі. У беларускай сталіцы наадварот – такімі гаргарынамі вельмі часта ганарацца і нават называюць візітоўкамі гораду, змяшчаючы іх выявы ў рэпрэзентацыйных кніжках пра Мінск.


Фота IREX/ProMedia
Палац Рэспублікі


Фота Ул. ШЛАПАКА
14-павярховік на Валадарскага каля турмы

У кожнага менчука ёсць у сталіцы свае архітэктурныя ўпадабанні. І наадварот, ёсць мясціны, якія не цешаць ні душы, ні вока. Відаць, шмат хто з жыхароў Мінску займаўся ўяўным эстэтычным вандалізмам, разважаючы, якія з мінскіх будынкаў варта было б пусціць пад «бабу», пад бульдозер ці ўзарваць, каб родны горад папрыгажэў.

Выглядаю з вокнаў сваёй кватэры на адзін бок: далі б волю – пазносіў бы ўсё спрэс. Высоўваюся на другі бок – тое самае жаданне. Здагадайцеся, дзе жыву? У Малінаўцы. Але ў Серабранцы, Чыжоўцы, Курасоўшчыне ды любым іншым спальным мікрараёне – тая ж карціна.

У цэнтры Мінску – прыстойней. Хоць і тут ёсць будыніны, якіх у горадзе магло б не быць, калі б пры ягонай забудове менчукі кіраваліся добрым густам. Больш за ўсё мяне раздражняе новы сталічны чыгуначны вакзал, бо ён нагадвае жабу-мутанта, а стары вакзал мне падабаўся. На другім месцы – Палац мастацтва, чыя фіялетавасць кожны дзень рэжа вока, як іду на працу. На дадатак, з-за яго не відаць касцёлу Святога Роха. А яшчэ я не люблю... Зрэшты, трэба і іншым мінчукам даць магчымасць «прыбраць» з яго «лішняе».

**Захар Шыбека, гісторык:**

Пытанне аб тым, што хацелася б знесці, натхніла б бальшавікоў, а нармальных людзей яно ставіць у тупік. А так – шкада, што ў Мінску ёсць «саркафаг» – Палац Рэспублікі, своеасаблівы маўзалей Савецкага Саюзу. Ягонае будаўніцтва перакрэсліла ідэю аднаўлення Дамініканскага касцёлу, захаваны фундамент якога прымыкае да Палацу. Цэнтральная плошча – гэта халодны адміністрацыйны стыль. Палац Рэспублікі псуе нават стылістыку сталінскага класіцызму праспекту Скарыны. Цяпер наўрад ці хто будзе зносіць няўдалыя будынкі, адно што можна змяніць іхнюю функцыянальнасць. Не прынята, каб у будынках гістарычнага цэнтру месціліся адміністрацыйныя структуры, там павінны быць музеі ды галерэі. Дом на плошчы Свабоды, 23 можна было б, напрыклад, аддаць Нацыянальнаму музею гісторыі і культуры, які туліцца ў будынку колішняга банку на Карла Маркса. Тое самае тычыцца і будынку прэзідэнцкай рэзідэнцыі, дзе раней размяшчаўся ЦК КПБ. Любы прэзідэнт, які будзе там сядзець, будзе ўяўляцца савецкім. У гэтым доме можна было б зрабіць музей савецкай гісторыі і культуры.


Фота Ул. ШЛАПАКА
Гмах на Юбілейнай плошчы


Фота Ул. ШЛАПАКА
Гандлёвы дом на Нямізе

**Васіль Шаранговіч, мастак, дырэктар Музею сучаснага выяўленчага мастацтва:**

У нас шмат таго, што нельга нават назваць архітэктурай, а ўсяго толькі домабудаўніцтвам. Палац Рэспублікі – слабы будынак у гэтым сэнсе. Мне здаецца, гэта скажа кожны. Такіх «каробак» невядома якога стылю вельмі многа. Канцэртная заля «Мінск», напрыклад. Унутры там зазвычай шыкоўна, а вось звонку... Сучасныя ж архітэктары ўсё ж такі шукаюць цікавыя мастацкія формы ў домабудаванні, чаго няма ў старых мікрараёнах.

**Алесь Анціпенка, кіраўнік Беларускага калегіуму:**

Я б не пашкадаваў вялікай колькасці «хрушчовак», тым больш што такая неабходнасць паўстане сама сабой: яны, здаецца, разлічаныя на 60 гадоў эксплуатацыі. Што да савецкай архітэктуры, той, што, у прыватнасці, рэпрэзэнтаваная на праспекце Скарыны, то яна мусіць не толькі застацца, але і ахоўвацца дзяржавай. Гэта ўжо помнікі архітэктуры. Увогуле ўсё, што мае выразны стыль, перадае дух сваёй эпохі, павінна захоўвацца. Што тычыцца асобных будынкаў, то вельмі няўдалы праект – будынак з цэнтрам «Гандлёвы дом на Нямізе», які засланіў від на старую частку гораду.


Фота Ул. ШЛАПАКА
Палац спорту

**Адам Мальдзіс, прэзідэнт беларускага ПЭН-цэнтру:**

Найперш што прыходзіць да галавы – гэта будынак, які яшчэ будуецца і сапсуе мясціну, дзе ён узводзіцца. Гэта ў пачатку вуліцы Камсамольскай з выхадам на Нямігу. Гэты будынак не ўпісваецца ў стыль раёну. Чырвоная цэгла, зялёная дахоўка – у XIX стагоддзі такога не было. З пабудаванага раней назваў бы «хрушчоўкі», але тое гісторыя. З гэтым нічога не зробіш.

**Кастусь Тарасаў, пісьменнік:**

Раздражняюць Палац спорту і палац «Працоўныя рэзервы» побач з ім. Першы падобны да гіганцкай ненажэрнай жабы, а для другога нішчылі мінскае замчышча. Можна і не зносячы – бо шкада працы будаўнікоў – перарабіць «Працоўныя рэзервы» ў барокавы па формах музей старажытнага Мінску. Без шкадавання знёс бы «Гандлёвы дом на Нямізе» разам з 9-павярховай гаргарняй, да якой ён прыляпіўся. А людзям, што там жывуць, іншыя б кватэры даў на гэтым самым месцы. Аднавіў бы ўсю знесеную ў 1960-х гадах старую Нямігу, а магістраль пусціў бы ці пад зямлёй, ці ў абыход. Варта было б Дом моды на Юбілейнай плошчы зрэзаць напалову. А яшчэ на Валадарскага каля турмы стаіць недарэчны хмарачос інфармацыйнага цэнтру Міністэрства ўнутраных справаў. Будынак гэты ўвесь тамтэйшы ландшафт забівае насмерць – як прышч на носе нявесты. Таксама пазакрываў бы наземныя паркінгі ў цэнтры Мінску. Бо ў гістарычных цэнтрах ва ўсім свеце шануюць чалавека, помнікі, горад, а не колы. Да ўсяго чалавек займае на вуліцы паўметра квадратнага, а машына – шэсць.



Фота Ул. ШЛАПАКА
Канцэртная заля «Мінск»

**Мікалай Чырскі, старшыня Беларускай асацыяцыі экскурсаводаў:**

Ну, знесці і перабудаваць – гэта бальшавіцкі падыход. Усе мінскія будынкі дарэчныя, бо які час – такая і архітэктура. І нам падабаецца на тых жа 3 кіламетрах праспекту Скарыны ад плошчы Незалежнасці да плошчы Перамогі. Вялікі дом на Нямізе? Дык калі знеслі ў гэтым месцы старажытныя збудаванні, не пуставаць жа яму? Палац Рэспублікі будавалі для партыйных сходаў. Гэтыя спаруды адпавядаюць стылістыцы таго часу і стану таго грамадства. Думаю, менчукі зміраюцца. Зрэшты, будуем так, як грошы дазваляюць. Багатыя будуюць прыгажэй. А вам што, не падабаецца? Не, наконт вакзалу, які падаецца мне касмічнай талеркай, пагадзіцца з вамі не магу. Усё-такі добра, што мы з такім вакзалам пачынаем новае стагоддзе.

**Падрыхтаваў**
**Кірэй МАНУЙЛА**

***P.S.*** Шаноўныя чытачы! Калі хто мае зуб на выродлівыя і недарэчныя будынкі ў сваіх гарадах, калі ласка, падзяліцеся гэтым з намі.


Фота Ул. ШЛАПАКА
Чыгуначны вакзал

**ВЫСТАВА**

## Наведацца да прадзедаў

У Мінску ў галерэі візуальных мастацтваў «*Nova*», што ў Цэнтральнай публічнай бібліятэцы імя Янкі Купалы, экспануецца выстава малавядомай беларускай фатаграфіі пачатку XX стагоддзя «Сляды вечнасці». На выставе прадстаўлены больш за 50 фатаграфій з фондаў Нацыянальнага музею гісторыі і культуры, Нацыянальнай бібліятэкі і прыватнага збору Дзяніса Раманюка. Сярод іх – фотапаштоўкі з беларускімі ландшафтамі Яна Булгака, пейзажная стэрэафатаграфія Фёдара Ястрэмскага, партрэтная і жанравая фатаграфія Міхаіла Зубея.

Ян Булгак – беларуска-польскі фатограф, этнограф, аўтар артыкулаў па тэхніцы і эстэтыцы фатаграфіі, заснавальнік фотаклубаў у Вільні. На выставе экспануюцца яго незвычайныя фотапаштоўкі, выдадзеныя паліграфічным спосабам і аб'яднаныя ў серыю, у якой прадстаўлены ландшафты Віленскага, Мінскага і Браслаўскага рэгіёнаў. Міхаіл Зубей пачаў займацца аматарскай фатаграфіяй у сярэдзіне 20-х гадоў мінулага стагоддзя. Стварыў фотаатэлье ў цэнтры Давыд-Гарадку.

Фёдар Ястрэмскі быў фатографам-аматарам пачатку XX стагоддзя. Вядома, што ён быў старшынём Мінскай казённай палаты, сябрам Мінскага таварыства аматараў прыродазнаўства, этнаграфіі і археалогіі. Здымаў у Заслаўі.

Выстава «Сляды вечнасці» працуе да 15 сакавіка штодзённа, акрамя аўторка, суботы і нядзелі, з 11 да 18 гадзін.

**Марат ГАРАВЫ**



# «Жалезны воўк» аднаўляе аблічча Полацку

Актывісты полацкага рыцарскага клубу «Жалезны воўк» распрацоўваюць праект віртуальнай рэканструкцыі гістарычнага аблічча гораду Полацку.

Пачатак праекту быў пакладзены працай аднаго з сябраў клубу Аляксея Дубко над камп'ютэрнай версіяй вонкавага выгляду сабору Святога Стэфана. Адну з галоўных святыняў Полацку ўзарвалі ў 60-я гады мінулага стагоддзя. Пры дапамозе старых фатаграфіяў прагразміст збіраецца стварыць віртуальную копію не толькі вонкавага выгляду сабору, але і яго ўнутранага ўбрання.

Паводле словаў аднаго з кіраўнікоў «Жалезнага ваўка» Андрэя Нікалаева, у клубе плануюць, што неўзабаве ў інтэрнэце з'явіцца сайт, наведнікі якога змогуць убачыць і іншыя славутасці аднаго з найстаражытнейшых беларускіх гарадоў, многіх з якіх ужо няма.

**Андрэй АЛЯКСАНДРАЎ**

# Багатыя таксама бяднеюць

У мінулы чацвер аўтарытэтны часопіс «Форбс» апублікаваў чарговы 16-ы штогадовы спіс мільярдэраў свету. Уладальнікі такога саліднага багацця жывуць у 43-х краінах. Эканамічны спад і наступствы тэрактаў у Нью-Йорку і Вашынгтоне скарацілі іх колькасць на 83 чалавекі, але ўсё роўна ЗША, як і раней, застаюцца самай багатай на мільярдэраў краінай – там жывуць 243 супербагацеі. Больш за тое, дзевяць з дзесяці найбагацейшых людзей планеты – амерыканцы. У Еўропе налічваецца 121 мільярдэр, у Азіі – 70.

А ўсяго ў свеце 497 мільярдэраў. Іх супольная маёмасць складае 1,54 трлн. даляраў, што на 10% менш, чым мінулым годам, але больш за ўнутраны валавы прадукт такой дзяржавы, як, напрыклад, Вялікабрытанія ці Францыя. Лічба, тым не менш, адпавядае траціне гадавога бюджэту і большая за чвэрць валавога нацыянальнага прадукту ЗША. Нягледзячы на тое, што заснавальнік карпарацыі *Microsoft* Біл Гейтс «трохі збяднеў», ён, як раней, займае ў рэйтынгу звышбагацеяў верхні радок. Яго асабістая маёмасць ацэньваецца ў 52,8 мільярда даляраў, што на 6 мільярдаў менш, чым год таму.

За ім ідзе вядомы інвестар Уорэн Бафет, чый капітал складае цяпер 35 мільярдаў даляраў. На трэцім месцы – Карл і Тэо Альбрэхты, нямецкія бароны розьнічных продажаў і нерухомасці – 26,8 млрд. даляраў. Яны найбагацейшыя з неамерыканцаў у гэтым спісе. Адсунуўся на чацвёртае месца Пол Ален, які разам з Гейтсам стаяў ля вытокаў кампаніі *Microsoft*. Ягонае багацце, паводле апошніх звестак, – 25,2 млрд. даляраў.

Італьянскую групу багацеяў па-ранейшаму ачольвае Сільвіо Берлусконі, ён знаходзіцца на 36-м месцы з маёмасцю 7 мільярдаў 200 мільёнаў даляраў супраць 10 мільярдаў 300 мільёнаў у 2001 годзе. Адразу за ім ідуць Леанарда дэль Век'ё, які займае 39-е месца з 6 мільярдамі 600 мільёнамі даляраў, і Лючыяна Бенетон на 62-м з 4 мільярдамі 900 млн.

Другі год запар у гэтым спісе фігуруюць расійскія прадпрымальнікі. Самым багатым чалавекам Расіі названы кіраўнік нафтавай кампаніі *«ЮКОС»* Міхаіл Хадаркоўскі. Асабісты капітал у 3,7 млрд. даляраў дазволіў яму заняць 101-е месца. Усяго Расію прадстаўляюць сямёра звышбагацеяў.

За Хадаркоўскім ідуць вядомы бізнесмен Раман Абрамовіч, цяпер ён губернатар Чукоткі (3 млрд. даляраў). Трэці – кіраўнік кансорцыума *«Альфа-групп»* Міхаіл Фрыдман (2,2 млрд. даляраў). На чацвёртым значыцца прэзідэнт холдынгавай кампаніі *«Интеррос»* Уладзімір Патанін (1,8 млрд. даляраў). Пяты – генеральны дырэктар *«Сургутнефтегаза»* Уладзімір Багданаў (1,6 млрд. даляраў). Шосты – кіраўнік карпарацыі *«ЛУКойл»* Вагіт Алекпераў (1,4 млрд. даляраў). І закрывае сямёрку кіраўнік кампаніі *«Русский алюминий»* Алег Дзерыпаска (1,1 млрд. даляраў).

Увайшоў у спіс і кітайскі мільярдэр Лю Юнсін, які спачатку разбагацеў на сельскай гаспадарцы, а потым на алюмініі.

Сярод самых гучных правалаў – Стыў Кейс, заснавальнік кампаніі *AOL*, гіганта тэлекамунікацыяў, які ўвогуле не трапіў у спіс, а таксама Тэд Тэрнер, бацька *CNN*, які страціў палову свайго багацця.

Жанчын-мільярдэрак усяго 35. Мільярдэраў да 40 гадоў – 25, сярэдні ўзрост багацеяў – 60 гадоў.

# Засмечаны космас

*Чалавек – істота неахайная. Такое ўражанне, што яго пакліканне – усё вакол сябе ператвараць у сметнік. Засмецііўшы як мае быць планету, homo sapiens дабраўся ўрэшце і да космасу. Гэта не пустыя словы: цяпер вакол Зямлі лётае каля 10 тысяч некіраваных буйных аб'ектаў і фрагментаў ракетных канструкцыяў. А калі падлічыць драбнейшыя ўломкі і астатняе смецце, дык такіх «спадарожнікаў» набярэцца да 150 тысяч. Сярод іх ёсць нават прадметы рыштунку касманаўтаў: пальчаткі, розныя інструменты, фотакамера, «частка пляцоўкі для замацавання ног», якую выпадкова адпусціў у космас амерыканскі астранаўт Джым Вос.*



Як мяркуюць навукоўцы, да сярэдзіны цяперашняга стагоддзя ў каляземнай прасторы сутыкненні адных аб'ектаў з другімі стануць звычайнаю з'яваю. Бо агульная маса касмічнага смецця ўжо цяпер у 15 разоў перавышае колькасць прыродных часцінак (пылу і метэарытаў), якія знаходзяцца на гэтых шыротах. З запускам новых касмічных апаратаў гэтая маса будзе няўхільна нарастаць, а паколькі касмічнае смецце мае тэндэнцыю самаразмнажэцца – кожнае сутыкненне абломкаў спараджае тысячы новых аскепкаў – то, як падлічылі вучоныя, прыкладна да 2050 году маса касмічнага смецця дасягне крытычнага ўзроўню і палёты ў блізкі космас стануць немагчымыя, бо касмічны карабель або спадарожнік рана ці позна немінуча наткнецца на нейкі прадмет.

Дарэчы, сур'ёзнае сутыкненне са смеццем аднойчы ўжо здарылася: у 1996 годзе французскі спадарожнік-шпіён наляцеў на рэшткі французкай жа ракеты. Упершыню ад пачатку касмічнае дзейнасці чалавека праблема сутыкненняў у космасе перастала быць абстрактнай. Але яшчэ ў 1983 годзе на адным з амерыканскіх «чаўнакоў» давялося замяніць ілюмінатар: выбоіну ў адмысловым загартаваным шкле зрабіў кавалачак засохлай фарбы дыяметрам каля 1 мм. Хуткасць касмічных сутыкненняў дасягае 35 тыс. км, і калі б прадмет быў буйнейшы, катастрофы наўрад ці ўдалося б пазбегнуць. Спецыялісты прыйшлі да высновы, што, напрыклад, удар алюмініевага абломка дыяметрам 1 см пры такой хуткасці раўнасільны сустрэчы з масаю ў 200 кг.

Акрамя таго, было некалькі «несур'ёзных» выпадкаў, калі «пабочныя прадметы» відавочна рукатворнага паходжання перашкаджалі прыстыкаваць карабель да касмічнае станцыі. Так, расійскія касманаўты Джэруа і Цюрын мусілі выдаляць пабочны прадмет, які аказаўся вяроўкаю, што засела ў шчыліне пасля адстыкоўкі папярэдняга грузавіка, і не даваў прыстыкаваць да станцыі грузавы карабель «Прагрэс М1-7». Аналагічная сітуацыя ў 1987 годзе на расійскай арбітальнай станцыі «Мір» пры стыкоўцы з модулем «Квант» прывяла да таго, што стыкоўку ўдалося правесці толькі праз восем дзён.

Засмечваць космас пачалі даўно. У 1961 годзе адбыўся першы выбух ступені ракетыносьбіта спадарожніка ЗША серыі «Транзіт», а ў 1964 годзе – першы мэтанакіраваны выбух (па камандзе з Зямлі) савецкага спадарожніка «Космас-50». Пачаўся рост колькасці «рукатворных», але ўжо нікому не патрэбных прадметаў на каляземных арбітах. Аб праблеме забруджвання космасу ўсур'ёз загаварылі толькі ў 80-я гады, бо становішча, якое склалася ў каляземнай прасторы, пачало пагражаць наваколаму асяроддзю, пілатаванай касманаўтыцы, доўгатэрміновым спадарожнікам і касмічным апаратам, а таксама насельніцтву Зямлі. Тады і ўзнікла паняцце «касмічнае смецце». Яно аб'ядноўвае спадарожнікі, якія вычарпалі свае энергетычныя рэсурсы, верхнія ступені ракетаў-носьбітаў, розныя дэталі, якія спадарожнічаюць запуску, і шмат іншых рэчаў, якія могуць застацца ў каляземнай прасторы практычна навечна. За гады касмічнае дзейнасці чалавека на розныя каляземныя арбіты і ў далёкі космас было запушчана больш за 20 тыс. аб'ектаў агульнай масаю звыш 3 тыс. тонаў. Дарэчы, як сцвярджаюць астраномы, найбольш засмечаны абшары каляземных арбітаў на вышынях 850–1200 км і ў зоне геастацыянарных арбітаў. Тутака ж канцэнтруецца і касмічнае смецце.

Галоўная крыніца смецця на сённяшні дзень – аварыйныя запускі ракетаў. Якраз яны даюць да 80% усяго смецця з памерам часцінак большым за 5 см, а штогод такіх аварыяў адбываецца каля дзесятка: выбухаюць паліўныя бакі, рухавікі, акумулятарныя батарэі, газавыя балоны і да т.п. Аказваецца, да нядаўняга часу ўсё смецце з арбітальных станцыяў проста выкідалі за борт, а пустыя паліўныя бакі і іншыя ёмістасці ўзрывалі. Цяпер кантэйнеры з адкідамі затапляюць у Сусветным акіяне.

Сур'ёзнасць праблемы забруджання каляземнага космасу прызнана шмат якімі міжнароднымі арганізацыямі, у тым ліку Міжнародным астранамічным саюзам, *COSPAR* (Камітэтам па дасьледаванні касмічнае прасторы) і іншымі. На працягу апошніх гадоў гэтая праблема ў прыярытэтным парадку абмяркоўваецца на штогадовых сесіях Камітэту ААН па мірным выкарыстанні касмічнае прасторы. Раней за ўсіх на праблему забруджання каляземнай прасторы звярнула ўвагу Нацыянальнае касмічнае агенцтва ЗША (*NASA*). А нядаўна прадстаўнікі *NASA* заявілі, што на 2003 год намечаны першыя выпрабаванні «мятлы з лазерных промняў», якая зможа ачышчаць ад смецця каляземныя арбіты і перадусім арбіту Міжнароднай касмічнай станцыі. «Лазерная мятла» вымятае фрагменты смецця дыяметрам ад 1 да 10 см, якія пагражаюць станцыі і якія нельга знішчыць ніякім іншым парадкам. Мяркуецца, што праца над ёю працягнецца два гады і абыдзецца ў 200 млн. даляраў.

**Вадзім САМАКАТАЎ**
**Utro.ru**

# Астралагічны прагноз

## ад Веранікі Кудраўцавай на 4 – 10 сакавіка

***Астрапрагноз адлюстроўвае агульны прыродны сацыяльна-псіхалагічны фон накшталт прагнозу надвор'я. Індывідуальнае прагназаванне грунтуецца на дакладных звестках: улічваецца дзень, месяц, год, месца і час нараджэння чалавека.***



**АВЕН.** Нішто не ўзнікае з нічога і не знікае ў нікуды – гэта простая ісціна вымалёўваецца з асаблівай выразнасцю, калі вас пачынаюць кантраляваць, абмяжоўваць у дзеяннях, падпарадкоўваць абставінам. Пакуль ёсць часовы перапынак, важна знайсці прычыны памылак у жыцці. Бліжэй да выходных з'яўляецца выдатны шанец давесці да ладу дом, зрабіць каштоўныя гаспадарчыя набыткі.



**ЦЯЛЕЦ.** Ужо можна было зрабіць высновы, да каго варта ставіцца па-людску, а да каго не. Але гэта яшчэ не ўсё, будзе невялікі антракт. У суботу можна рызыкнуць ды ўзяцца за новую працу, унесці ўдасканаленні ў прафесійнай дзейнасці. Для кагосьці свята – а вам добра было б выправіцца ў далёкую вандроўку, заняцца плённым навучаннем ці інфармацыйнай працай. У каханні – сюрпрыз у суботу.



**БЛІЗНЯТЫ.** Здавалася б, у праблемах з дзецьмі і моладдзю відаць святло ў канцы тунеля. Ва ўсякім выпадку, сітуацыя акрэсліваецца, застаюся не зачапацца, а пакуль тое – прадумаць мэты далейшых дзеянняў. Няблага было б да пятніцы нагадаць пра сябе тым людзям, ад якіх залежыць вашая праца і галоўныя прыярытэты. Сужэнец можа прыкрыць вас у фінансавых адносінах.



**РАК.** Вельмі важнымі могуць стацца вашая паводзіны і выказаная вамі ўвага 8 сакавіка: ці пойдзеце вы далей і вышэй, падвысіце свой статус, ці расчаруецеся ў сваіх уяўленнях і магчымасцях. Судовыя рашэнні «вісяць на валаску», сітуацыя можа паверніцца як у той, так і ў іншы бок. Выходныя звязваецца з «адвакатамі» – з тымі, хто ставіцца да вас прыхільна і рэальна можа дапамагчы.



**ЛЕЎ.** Падобна, што пасля ліхаманкі на працы ці ў жыцця важных пытаннях надышоў перыяд чакання наступстваў. Цалкам могуць вырашыцца праблемы з партнёрамі, што цягнуцца месяц, а таксама судовыя гісторыі. Апроч таго, спрацоўваюць таемныя механізмы, пратэкцыя пры прыёме на працу ці атрыманні свайго роду «акцыяў», якія дазваляюць браць самы актыўны ўдзел у прыстойных праектах.



**ПАННА.** У вас шмат канкурэнтаў. Але гэта як паглядзець – часам канкурэнты ператвараюцца ў партнёраў. Цяжкая праблема выбару запатрабуе вырашэння праз тыдзень. У некага дагэтуль не вызначаная сітуацыя з сужэнцам ці шлюбам. Справа сур'ёзная, асэнсоўвайце ўсё як след. Выходныя не выключаны калектыўныя выезды, прапановы ад сяброў, кампаній, якія дазваляюць глядзець у будучыню з аптымізмам.



**ШАЛІ.** У даўту як у шаўку, не выключана, што і здароўе можа падвесці, але справа зварухнулася з мёртвага пункту. Хоць не варта чакаць цяпер імгненнага выніку. На выходных добра было б заняцца справамі, прафесійнымі пытаннямі, перагаварыць з уплывовымі людзьмі – будзе толк. У суботу розыгрыш, выпадковыя супадзенні могуць згуляць вам і на руку, не адмаўляйцеся павесяліцца.



**СКАРПІЁН.** У каханні нейкі пералом ужо адбыўся, а наступствы ў выразнай форме прыйдуць праз тыдзень. Дома ў суботу лёгкі шок: ці то госці, пра якіх ужо месяц ішла гаворка, ці то новая бытавая тэхніка. Перад сужэнцам ці партнёрам адкрываюцца перспектывы, магчымасць падвысіць свой статус, узмацніць уплыў у вырашэнні найважнейшых пытанняў у выходныя – плануйце з ім супольныя мерапрыемствы.



**СТРАЛЕЦ.** Можна «залізваць раны», займацца звычайнымі справамі, але толькі не замыкацца ў чатырох сценах. Усё, што было таемным і абмяжоўвала, – зробіцца ўжо відавочным, дый варта адказаць за свае дзеянні. Выходныя было б добра прысвяціць каханаму здароўю, выехаць на прыроду. Хоць і не выключана, што прыйдзецца тэрмінова знікаць з месца ў суботу, выправіцца па справах. Рух – гэта жыццё.



**КАЗЯРОГ.** Вынік вашага выбару, асабліва ў асабістым жыцці і ў пытаннях з дзецьмі, не прымусіць сябе доўга чакаць, а пакуль ёсць час прывесці сябе да прытомнасці. Хаця напярэдадні свята яшчэ давядзецца перажываць, могуць быць раскрыты таемныя апарацыі. У свята можа здарыцца нечаканая падзея – пераезд ці грошы, а выходныя сямейнае жыццё набывае рысы саліднасці і ўстойлівасці.



**ВАДАЛІЎ.** Да пятніцы вы ўсё яшчэ жывяце нядаўнімі зменамі фінансавага характару. Не выключана, што ў выходныя вырашыцца пытанне з кватэрай. У асяроддзі родных чакаецца спрыяльны збег абставінаў медыцынскага характару. Каханы або малое дае надзею на лепшую будучыню, на тое, што ў жыцці можа здарыцца ўсё, што заўгодна.



**РЫБЫ.** Шмат што робіцца гранічна ясным; верагодна, вы схіліцеся да таго, каб змяніць працу, паглядзець па-новаму на свае дзеянні. Пажадана пазбягаць шумных кампаній у свята ці падрыхтавацца да вялікай страты энергіі. Субота адзначыцца адкрыццямі, паездкамі ці перамовамі з тайнай мэтай, і ўсё гэта ідзе на дабро вашай прафесійнай дзейнасці. Выходныя вас кахаюць і паважаюць.

Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі.
Адрас: г.Мінск, вул. Рафіева, д.25, корп.1. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1129 Нумар падпісаны ў друк 3/03/2002 (15:00) Наклад – 7.760